Ніна Галіноўская

# Звяры ў трамваі






Вершы



Мінск
«Мастацкая літаратура»
2013





## КОЛЬКІ ЗВЯРОЎ?

Ранкам ехалі ў трамваі
Два мядзведзі і тры Заі,
Коней шэсць і пяць кароў.
Колькі ехала звяроў?



## ПАСВАРЫЛІСЯ

Трэніроўка, трэніроўка.
Зай імчыцца услед за воўкам.
С-с-с! — гамоняць лыжа з лыжай.
Горка ніжай, ніжай, ніжай.
Заяц воўку наўздагон:
— Тармазі, не ўрэжся ў клён!
Трэск... І воўк пад клёнам шмяк!
— Я ж казаў табе, дзівак!
— Ты мне позна крыкнуў, Зай.
Лыжы мне свае давай!
Ты — нягоднік, шарачок,
Позна крыкнуў назнарок.
— Што ты, воўк, я не такі.



Мы ж з табою дружбакі!
Я магу дапамагчы.
— Зай, аб дружбе памаўчы.
Давяраў любому зверу.
А табе, касы, не веру.
— Ты не верыш? І не вер.
Я скажу табе цяпер:
Трэба думаць, воўк, самому.
Будзь здароў. Пайду дадому.

## НЯЎКЛЮДНЫ

Па ваду ідзе Мішук
І вядзерцам стук ды грук.
Не глядзіць сабе пад ногі,
Не трымаецца дарогі.
Зачапіўся за карчак
І упаў — на лбе гузак.
У маліннiку вялікім
Ён згубіў два чаравікі.
А пакуль іх там знайшоў —
Сабе лапы накалоў.





Ледзь прыклыпаў да крыніцы.
Зачарпнуў вядром вадзіцы.
Задаволены ідзе,
Сонца плешчацца ў вадзе.
На сцяжынцы корч яловы.
Бух! — разліў вады палову.
Пазірае ўгору Мішка:
— От знаходка, ну і шышкі!
Мне б такую хоць адну!
І палез ён на сасну.
Ды пад лапай хруснуў сук —
На вядзерца ўпаў Мішук.
— Ой, балюча, ой бяда!..
Разлілася ўся вада!



## НЯЎВАЖЛІВЫЯ ЛІСЯНЯТЫ

Госці будуць у лісіцы.
Ліска зранку мітусіцца:
Варыць, смажыць, выпякае.
Ой, рухавая якая!
Тата вучыць лісянят,



Рыжых, шустрых зверанят,
«Добры дзень» казаць і «дзякуй»,
Ставіць кожнаму адзнаку.
Хорам дзеці-лісяняты
Паўтараюць ўслед за татам:
«Калабок прысеў на пень,
Кажа: «Сонца, добры дзень!»
Адпачыў хвілінак пяць...»
— Што пяньку трэба сказаць?
— Добры дзень! — крычаць звяркі.
— Хто няўважлівы такі?
— Дзякуй, скажа калабок!
— Малайчына, пяць, сынок...
Шум, гамонка каля хаты.
— Госці!.. Ціха, лісяняты.
— Добры дзень! — гавораць госці.
Лісяняты шэпчуць штосьці.
І гучыць, як рэха:
— Дзякуй!
Што ж ім ставіць за адзнаку?..






## ЗАЙ-РАЗГУБЛЯЙ

— Колькі морквы на вітрыне! —
Заяц скок — і ў магазіне.
Насыпае морквы кошык
І да касы.
— А дзе ж грошы?
Мне рубель давала маці.
— Можа, ты забыў у хаце,
На стале ці на паліцы? —
Кажа ліска-прадаўшчыца.
— Не, паклаў яго ў кішэнь.
— Гойсаў, пэўна, цэлы дзень —
І згубіў рубель свой, Зай.
А цяпер вось пашукай!
Шарачок стаў разважаць:
— Дзе спярша рубель шукаць —
Столькі бегаў і скакаў!
Можа, там, дзе асака —
У балотцы піў ваду.
Не, туды пазней пайду.
Перш — на любую палянку:
Там рабіў зарадку ўранку.





І стаяў на галаве.
Можа, рублік у траве.
Прадаўшчыца кажа зайку:
— Не згубі трусы і майку!..

## НЕ ГРЫМІ НАЧАМІ, ВОЎК



Воўк у бубен
моцна б'е.
Спаць нікому
не дае.
Зай вады наліў
у збан.
Бух! На воўчы
барабан.
Барабан умомант
змоўк.
— Не грымі
начамі, воўк!



## ДАПАМАЖЫЦЕ!

Па сцяжынцы
бег жучок.
Бразь! — і ўпаў ён
на бачок.
Шэпча ціхенька
прахожым:
— Хто ў бядзе мне
дапаможа —
Хуценька
на лапкі стаць?
Трэба ж маму
даганяць.

## ДЗЕЦІ І КАМАРЫ

— Камарыкі-камары,
Што вы робіце ўгары?
— Крупы таўчом.
Камарыкі-камары,
Трэба кашу нам зварыць.





— Круп жа няма.
Камарыкі-камары,
Вы ж таўклі гадзіны тры.
— Жартавалі.
Камарыкі-камары,
Што рабілі вы ўгары?
— Мы скакалі.



## СМОЎЖ

Сонца нізіцца над полем,
Адыходзіць дзень паволі.
І дамоў спяшаюць птушкі,
Мошкі, конікі і мушкі.
Толькі смоўж сядзіць спакойна.
Дзень ці ноч — яму ўсё роўна.
Падпаўзае жук вусаты:
— Смоўж, хадзем хутчэй дахаты.
— Ты паўзі, спяшайся, братка,
У мяне ж на спіне хатка.



## ПІНГВІНЫ-МУЗЫКАНТЫ

Выходзяць
важна
з вады
цікавыя
спадары.
Апратуты
вельмі
модна.
Кладуцца
на лёд
халодны.
Усталі.
Ідуць,
як франты,
лядовыя
музыканты —
кашулі,
чорныя фракі,
ды інструментаў
ніякіх.
Станеш





у захапленні,
запомніш такія імгненні.

## КАТОВЫ ТУРБОТЫ

У Ваські-ката
турботаў зашмат:
Купіць падарункі
для кацянят,
Для Муркі —
касметыку і парасон.
Сядзіць на канапе
і думае ён:
— Куплю «кіцекат»
і «віскас» куплю.
І сам буду есці,
бо вельмі люблю.
Навошта касметыка —
Мурка мая
Прыгожая так,
ну... такая, як я.
Наконт парасона...





Яшчэ пагляджу.
У хаце ж зусім
не бывае дажджу.
А зараз зіма.
І вось-вось Новы год...
У беднага Ваські
стольки турбот!

## ЛЮСТЭРКА ПАДВЯЛО

У люстэрка глянуў кот,
Засмяяўся на ўвесь рот:
— Я ж да тыгра так падобны,
А хаджу заўжды галодны,
Бо баюся я сабакі,
Лахмача і забіякі.
Важна з хаты выйшаў кот.
Супраць будкі сеў на плот.
— Шарык, мне сказаў гусак:
Грозны тыгр — мой сваяк.
На двары цяпер я цар.
З будкі злоснае:



— Гар-р, гар-р!
Кот ні з месца:
— Гэй, лахмач,
Хочаш смейся, хочаш плач —
Чуеш, з сённяшняга дня
Ежа будзе ўся мая!
Шарык з будкі раптам скок
І хапіў ката за бок.
— М-мяў, пусці,
цар-р б-будзеш ты!..—
І задаў кот лататы.

## КОШКА І МАТРОШКА

На акне стаіць матрошка.
І з яе смяецца кошка:
— М-мяў, матрошачка,
адна ты,
А я маю кацяняты —
Дзве дачкі, адзін сынок.
Кожны — шэры камячок.
А матрошка адказала:



— Трое дзетак —
вельмі мала.
Аж дзявяцера я маю.
— Дзе?..
— Пад хусткаю хаваю.
Адвярніся да дзвярэй.
Раз, два, тры! —
лічы хутчэй.
Кошка зірк —
матрошак рад.
Кліча дзетак-кацянят:
— Пойдзем, дзеці,
на абед.
А матрошка ёй услед:
— Пасмяешся, можа, болей?
Кошка ціха:
— М-мяў, даволі!

## У МАСЦЫ

Прыдбала да свята варона
Кафтанік чырвона-зялёны.
Пашыла спадніцу да пят.
Прыходзіць на баль-маскарад.
«Я выдам сябе за паўліна»,—
Па крузе прайшла яна чынна.
— Вы хто? — запытала сарока.—
Прыехалі, мусіць, здалёку?
— За мор-рам, сар-рока, мой р-род!..
— Закрый ты, вароначка, рот.
Маўчаць ты павінна, павер.
— Пр-раклятая літар-ра эр-р!

## ВАРОНЫ І ТЭЛЕФОНЫ

Купілі дзве вароны
Мабільныя тэлефоны.
Размаўляюць дзень пры дні
На зямлі і ў вышыні:
Пра сустрэчы і расстанні,
Пра вячэры і сняданні,
Пра сакрэты сваіх мар.
Кар-кар-кар ды кар-кар-кар.
Болей двух гадоў, дарэчы,



## УЗОРЫ

На лісцях, на кветках
узоры.
А хто ж гэта іх
выразаў —
Ці сонца, ці вецер,
ці зоры,
Ці месяц уночы
саткаў?
Напэўна, усе разам
вясною
Рабілі за ўзорам
узор.
Таму яны з рознай
каймою
І безліч узораў,
як зор.

## МОЙ ЛУГ

Перада мною лета
Сярод зімы марознай.
Ідзі збірай букеты
На лузе кветак розных:
Чырвоных, васільковых,
І жоўтых, і барвовых,
І колеру вясёлкі
На лузе кветкі ёсць.
Ім аддалі алоўкі
Сваю ўсю прыгажосць.
Маленькія алоўкі
Шчаслівыя са мной:
Вы паглядзіце толькі —
Цвіце мой луг зімой.





## Я МАЛЮЮ АКРАБАТАЎ

На сабаку стаіць
кот,
На кату ляжыць
янот,
На яноту —
парсючок,
А на ім —
малы бычок.
Зверху — козлік
барадаты.
Вось якія
акрабаты!
Спадабаўся
мой малюнак?
Тады вось вам
падарунак.





## ЖАРТАЎНІК

— Я такія цуды бачыў:
Бегемот сачком рыбачыў,
Кіт хадзіў на галаве,
Сом варыў грыбы саве.
— Праўду кажаш ты ці не,
Можа, бачыў гэта ў сне?
Што яшчэ раскажаш нам,
Перасмешнікам-сябрам?
— Слон катаўся на акуле,
А жырафа на казулі.
Кот гуляў у даміно.
Кракадзіл глядзеў кіно.
Вось што бачылася мне.
Вы паверылі? Не?
— Не!
— Я прыдумаў жарты вам,
Дарагім маім сябрам.







## БУДУ МАРАКОМ

Я малюю матроску
І кашулю ў палоску,
Бесказырку,
ззаду стужкі,
На іх — якары,
як птушкі,
Чаравікі і штаны,
Будуць чорныя яны;
Карабель і ў хвалях
мора...
Падрасту і стану
скора
Я сапраўдным мараком
І пакіну родны
дом.
Тату, маму
не забуду —
На пабыўку ездзіць
буду.

## ЮНЫ ПІЛОТ

Мне купілі самалёт.
Я цяпер — Арцём-пілот.
У аблоках я лятаю,
У руках штурвал трымаю.
Пасажыры кот і мішка,
Заяц, вожык і мартышка.
Рэйс у горад Магілёў,
А тады ляцім у Шклоў.
Кажа мама мне: «Арцём,
Вось і наш аэрадром.
Завяршылі мы палёт.
Час абедаць, мой пілот».




## СОН НА ДВАІХ

Дрэнна спіць мая бабуля.
Дзе купіць ёй моцны сон?
Можа, зараз намалюю...
Ды які па форме ён? —
Круглы, конусны, квадратны.






Ці такі, як парашут?
Ён лятаць ці бегаць здатны,
І які яго маршрут?
Ну, а колер — бірузовы,
Сіні, жоўты, васільковы?
Хто мне можа падказаць?..
Лепш з бабуляй буду спаць.
Мой выдатны, моцны сон,
Нас дваіх агорне ён.

## БЕЗБАРОДЫ ДЗЕД

Любіць Слава маляваць,
Ад стала не адарваць.
Падышоў да Славы дзед:
— Я заказваю партрэт.
Намалюй, унук, мяне.
— Не змагу, дзядуля, не:
Ты не маеш барады —
І для дзеда малады.
Пастарэй гадоў на пяць —
Я змагу намаляваць.

## МІКРАМАЗ

Мурашы, мурашы,
Вы працуеце ў цішы.
Хто з вас майстар ці начальнік?
Слухай, ветлівы маўчальнік:
Я хачу параду даць,
Як вам лепей працаваць.
Груз вы возіце на спіне —
Будзе лепей на машыне.
Вы зрабіце грузавік
Вышынёю з баравік
Ці з чырвоны мухамор.
Будзе нехта з вас шафёр.
Стане груз вазіць і вас
Незвычайны мікраМАЗ.





## КАЛЯРОВАЯ МУКА

Неба зімою муку прасявае.
Пэўна, на млыне часцютка бывае.
Дзесьці бярэ яно снежнае зерне.
Неба, сакрэты свае ты давер мне.
Дзе твае засекі, дзе твае жорны?
Дам табе фарбы чырвонай і чорнай,
Сіняй, зялёнай і бурачковай —
Стане прыгожай мука — каляровай.
Эх і прыгожыя стануць сняжынкі!
Здзівяцца ўсе хлапчукі і дзяўчынкі.
Будуць крычаць яны радасна ўсюды:
— Дзіўнае дзіва, нябеснае цуда!
Цуда нябеснае, цуда зямное!..
Неба, ты чуеш? Згадзіся са мною!

## НОС ДЗЕДА МАРОЗА

На двары марозны ранак.
Хлопчык выскачыў на ганак:
— Пакажыся, Дзед Мароз,
Дай зірнуць мне на твой нос.
Ці ён сіні, ці зялёны,
Ці ён чорны, ці чырвоны?
Я цябе намаляваў,
Толькі нос не фарбаваў.
Двор Міхаська абабег.
«Дзе ж той дзед?» —
Навокал снег.
«Дзе Мароз той?» —
Невядома.
Змерз Міхась, пабег дадому.
Глянуў хлопчык у люстэрка:
— Дзе алоўак, дзе паперка!
Зараз, зараз, Дзед Мароз,
Пафарбую я твой нос.





## ХТО ПРЫГАЖЭЙ

Васілёк з рамонкам
Пачалі гамонку.
— Я прыгожы такі,
Як вясновы блакіт.
І прыкметны здалёк,—
Так сказаў васілёк.
— Я ў садовае ружы
Жаўціню пазычаў,
Я ў гарлачыкаў белых
Белы колер узяў —
Значыць, я — прыгажун,—
Так рамонак сказаў.



Палявою сцяжынкай
Прабягалі дзяўчынкі.
— Я люблю васілёчкі,—
Сказала Марынка.
— Я рамонкі люблю,—
Адказала Галінка.

Больш не хваляцца кветкі —
Сонца з ветрыкам сведкі.





## ФАРБЫ ВОСЕНІ

То загамоніць лес тужліва,
То стане ціха і маўкліва.
Працуе тут мастачка восень.
А вецер фарбу ёй падносіць.
Адзін мазок, другі і трэці —
І жоўты ліст гайдае вецер.
Дабавіць фарбы бурачковай —
І ліст трапечацца барвовы.
Працуе восень пэндзлем тонкім,
Абходзіць елкі і сасонкі:
Як дакранецца да іх толькі —
Балюча колюцца іголкі.
Бярозак тонкія галінкі
Скідаюць жоўтыя хусцінкі,
І кружыць, гушкае іх вецер...
Сумуе лес па звонкім леце.







## РАЗАМ З ПАЛКАНАМ

Я хачу такія санкі,
Каб да вечара ад ранку,
Ад прыпынку да прыпынку
Беглі-беглі безупынку.
Мы б каталіся з Палканам,
Сябруком маім адданым.
Абганялі б іншамаркі.
Ні бензіну, ні саляркі.
Не патрэбна. Толькі снег
(Ні пры чым тут жарт і смех!),
Снег сыпучы, снег іскрысты.
Каб дзівіліся ўсе чыста!

## У СТРАШНЫМ ПАЛЁЦЕ

На Марс узляцела Баба Яга.
Праз тыдзень яе ахапіла туга.
— Памру ад нуды. Палячу на Зямлю.
І сесці памкнулася ў ступу сваю.
Нязграбны скачок — ступа з Марса кулдык.
Застаўся у ёй касцяны чаравік.
Ступа ляціць, Баба Ёжка за ёй:
— Ой гора! Баюся сустрэчы з Зямлёй!

## МЯЧ НЕ СКАЧА

Пайшла мартышка ў магазін,
Купіла сыну апельсін,
Прыбегла хуценька дамоў.
Малы да сеткі падышоў:
— Які цудоўны новы мяч,
Але не хоча бегчы ўскач.

## МЫ НА ВЫСТАВЕ

Мы прыйшлі
ў «жывую» казку —
Саламяны
эрмітаж.
Зроблены з душой
і ласкай



Кожны
цуда-персанаж.
Тут і певень
пышнахвосты,
Пёркі золатам
блішчаць.
Побач курка,
ніжай ростам —
Хараство
не апісаць.
Дзед з купчастаю
бародкай,
Вусы — стрэлкі,
нос — пучок.
І бабуля,
як лябёдка,
Блізенька,
плячо ў плячо.
Конік, хлопчык
і дзяўчынка,
Кошык, хлебніца,
пано...
Казка з дзіўнай
залацінкай,
Хоць здымай яе
ў кіно.

## МЫ Ў МЕТРО

Стаю на эскалатары —
Уніз вязе мяне.
Трымаюся за поручні,
Рука не саслізне.
Мне трошкі страшнавата,
Бо еду ўпершыню.
Са мною побач тата.
Я роўненька стаю.
Бягуць уніз прыступкі,
Знікаюць на вачах.
Прайшла, можа, мінутка —
І мой знікае страх.
Апошняя прыступка.
Ступаю на перон.
Цягнік прымчаўся хутка.
Заходзім у вагон.
Зачыненыя дзверы.



Нырaем у тунэль.
Імчымся хутка ў цемры.
За трыдзевяць зямель!
Святло. Прыпынак — станцыя.
Хто выйшаў, хто зайшоў.
І дзверы зачыняюцца.
Цягнік імчыцца зноў.

## ВЫХВАЛЯЙКА-АБЯЦАЙКА

Сапсавалася машына:
Не трымаецца кабіна.
Колы хіляцца ўбакі.
Мітусяцца хлапчукі.

Ясь з развагаю прыкінуў:
— Не прыкруціш так кабіну.
Трэба гайкі і балты.

— Ну, а дзе іх возьмеш ты? —
Дзімка з горыччу гаворыць.



— Што вы, хлопцы, за шафёры.
У машынах вы нязнайкі.
Я знайду балты і гайкі
І зраблю рамонт за так!
Па рамонтах я ж мастак! —
Ганарліва кажа Вова.—
Заўтра будзе ўсё гатова.

Дзень мінуў, другі і трэці.
Хваляваацца сталі дзеці.
— Пабяжым хутчэй да Вовы.

— Грузавік ужо гатовы?
Вова круціць галавой.

Дзімка крыкнуў:
— О-ё-ёй!..
У кутку ляжыць машына
Ўся без колаў, без кабіны.
Мост пагнуты і барты —
Не памогуць тут балты.

— Выхваляйка-выхваляй,
Абяцай, ды меру знай!





## БУДЗІЛЬНІК

Ён у нас заўсёды ўпарты,
Хто яго ні завядзе:
На рабоце мама, тата —
Нібы сонны, ледзь брыдзе.
Калі ж сплю, дык ён у спешцы —
Не паспею сон дасніць —
На цікавым самым месцы
Нечакана зазвініць.
Захварэю — ён ізноўку
Запавольвае свой крок.
А катаюся я з горкі —
Дык імчыцца назнарок.
Надакучыў мне будзільнік,
Можа ёсць такі завод,
Дзе б зрабілі нам званільнік,
Каб ішоў наадварот.

## ДЗЯЖУРНАЯ

За сталом уся сям'я.
І абед падношу я.
— Вось вам першае, другое.
Што, бабулечка, такое?
Не даела ты булёну,
Не падам я макаронаў.
Ты ж не любіш адставаць.
Тут булёну лыжак пяць.
Памагчы табе хачу:
Еш, я лыжкі палічу.
Усміхнулася бабуля:
— От дзяжурная!
Вы чулі,
Памагае есці мне.
Адставаць не буду, не.
Шчыра дзякую, унучка.
— Бабка, ты —
неадстаючка!





## Я ЗА ГАСПАДАРА

Посуд памыты,
Чыстая каструля,
Кветкі
паліты.
Дзівіцца
матуля,
Усмешка
на твары:
— Хто ж так
гаспадарыў?

## Я ДОБРЫ, СКАЖЫЦЕ?

З'еў я катлеты —
Хваліце за гэта.
Надзеў паліто я —
Хваліце за тое.
Надзеў сам галёшы —
Я хлопчык харошы.
Паліў арабіну —
Які малайчына!

Я сёння не плакаў,
Даў есці сабаку
І кошку не выцяў.
Я добры, скажыце?

## СМЕХ І ВОЙКАЛЬ

Смех-смяшок і войка-войкаль
Ходзяць побач па зямлі.
Не сябруюць яны столькі,
Колькі часу пражылі.
І як толькі пачынае
Нехта войкаць «вой-вой-вой»,
Смех-смяшок туды спяшае,
Устаўляе голас свой:
— Ха-ха-ха ды хі-хі-хі —
Зайкі шыюць кажухі,
Хі-хі-хі ды ха-ха-ха —
Возіць пеўніка блыха.
Войка-войкаль да другога —
Ён заплача «вой-вой-вой».
Казытне смяшок малога —
Ха-ха-ха — смяецца той.





Смех за войкаля мацнейшы,
Рухавейшы і смялейшы.
І амаль што увесь час
Ён жыве, сябры, між вас.

## КАШТОЎНЫ БАГАЖ

На станцыі грузяць
каштоўны багаж.
Яго павязуць
на вясковы кірмаш.
Чакаюць багаж
пад паветкай прылаўкі.
Хутчэй падавайце
заказы, заяўкі
На казкі, на вершы,
на апавяданні.
Яшчэ даручаем
такое заданне:
Сяброў запрасіце
на кніжны кірмаш.
Бо гэты каштоўны багаж
увесь ваш.



## ЗМЕСТ

**Звяры-сябрукі**



**Я малюю...**



**Смех і войкаль**



